# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 49 (458) | ГОД ІХ | 6 СНЕЖНЯ | ЦАНА 60 гр.

## ЗА ТЫДЗЕНЬ

М. Машара: НОВЫЯ ВЕРШЫ.

М. Беразавец: «МАРЫ АБ СВЕЦЕ АДЗІНОЦТВА» (палеміка).

М. Гайдук: НАВУЧАННЕ РУСКАЙ МОВЫ Ў БЕЛАРУСКІХ ШКОЛАХ.

Ул. Паўлючук: ЯЗЫЧАСТВА Ў ЖЫЦЦІ БЕЛАРУСАЎ XIX СТ.

## Гэтым можа займацца гурток БГКТ

Чым павінен займацца гурток БГКТ, што ён павінен рабіць? Вось такія, прыкладна, пытанні ставіліся на апошнім Пленарным пасяджэнні Галоўнага Праўлення, а потым на нарадзе актыву БГКТ Бельскага аддзела. У нас найбольш папулярныя драматычныя гурткі. Моладзь рыхтуе пастаноўкі пераважна з рэпертуару выданага Галоўным праўленнем. Выступленне аматарскага калектыву ў сваёй або суседняй вёсцы сцягвае шмат людзей, якія смяюцца, перажываюць, хвалююцца разам з персанажам п'есы, а пасля гутараць аб пастаноўцы, аб яе змесце і выкананні паасобных самадзейных артыстаў. І тут маем і знаёмства з творам пісьменніка і ўплыў зместу на прысутных. Важна толькі падабраць добрую высакаякасную п'есу. Значна менш гурткоў БГКТ арганізуе харавыя калектывы. Пры добрым супрацоўніцтве з настаўнікамі і іншымі асобамі здольнымі да дырыгенства магло б быць значна больш харавых груп. Нішто так сільна не ўздзейнічае на чалавека, як песня. А беларускіх песень (і не толькі беларускіх) многа прыгожых і меладыйных.

Яшчэ менш існуе ў нас інструментальных калектываў. Пры добрай, прадуманай працы гурткоў і пры дапамозе некаторых устаноў (перш за ўсё ГС-аў) інструментальных калектываў магло б быць значна больш. Гэтак справа выглядае і з танцавальнымі калектывамі.

Параўнальна менш складанай справай з'яўляецца рэцытатарства. Беларуская літаратура багатая ў цікавыя і змястоўныя творы, якія можна, варта і трэба вывучаць. Безумоўна, трэба тут выяўляць здольных людзей да гэтага, і заахвочваць іх да рэцытатарства. Супольнае чытанне шадэўраў беларускай літаратуры, арганізаванне літаратурных вечароў, адзначэнне гадавін пісьменнікаў пад сілу гурткам і варта гэта прадбачыць у планах працы. Безумоўна, неабходнае тут супрацоўніцтва са школамі і бібліятэкамі. Пры дапамозе бібліятэкараў пажаданым было б звярнуць увагу на чытальніцтва кніжак на беларускай мове і арганізаванне дыскусійных вечароў. Важная справа, каб усе дзеці вывучалі беларускую мову, каб не пагарджалі ёю дарослыя.

Пры Галоўным праўленні БГКТ існуе літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», якое, дзякуючы літаратурнай старонцы ў «Ніве» і выдавецтву таварыства, дабілася значных дасягненняў. Карысную справу рабілі б гурткі БГКТ запрашаючы нашых паэтаў і празаікаў на аўтарскія сустрэчы. Такія спатканні з насельніцтвам заўсёды цікава праходзяць.

Аддзельнай справай з'яўляецца падпіска на часопіс «Ніву». Трэба чытаць іншыя газеты, але на адзіную ў Польшчы, на сваю беларускую газету неабходна падпісвацца і заахвочваць іншых. Гэта адзін са шматлікіх абавязкаў кожнага члена БГКТ. Варта таксама арганізаваць спатканні і з працаўнікамі рэдакцыі «Нівы».

Калі разыходзіцца аб спатканні, дык іх можа быць многа і па-свойму цікавых. Моладзь чаша не памятае часоў даваеннай Польшчы, даведваецца толькі з кніжак аб змаганні падпольшчыкаў з санацыйнай уладай. Моладзь не памятае таксама нямецкай акупацыі і збройнай барацьбы партызан з акупантам. Падрастаючая моладзь не памятае і часоў станаўлення народнай улады, перыяду барацьбы з бандамі. Павучальным і цікавым было б такое спатканне з людзьмі, якія бралі ўдзел ва ўспомненых цяжкіх гістарычных перыядах нашай краіны.

(Працяг на стар. 7)

Інтэрв'ю Дваццацігоддзя

## СЯБРЫ СССР

**РАЗМОВА З САКРАТАРОМ ЗАЯВОДСКАГА ПРАЎЛЕННЯ ТПП-Р У БЕЛАСТОКУ — ЗОФІЯЙ ТРЫБУЛЬСКАЙ.**



— Таварыства працуе для грамадства пры дапамозе грамадства.

**— Дваццаць год — гэта ўсё ж такі нямнога. Але напэўна першыя дакументы аб пакліканні Таварыства належаць да архівальных рэдкасцей. Ці маеце такія дакументы?**

— У архіве Дэмакратычнага Староніцтва мы адшукалі сапраўды ўнікальныя першыя пратаколы з 20-цігадовай даўнасці. Першы з іх ад 14-га верасня 1945 года гаворыць пра паразумленне тадышніх палітычных старон аб утварэнні Ваяводскага праўлення ТПП-Р у Беластоку. Формы дружбы з СССР існавалі ў нас ужо раней, ад 1944 года, пад назвай «Гурткоў дружбы з СССР». Успомнены пратакол удакладняе назву Таварыства на агульнапрынятую і надае яму арганізацыйную форму. Чытаем у ім таксама імёны першых арганізатараў Таварыства, між іншым, таварышоў: Падэдворнага, Лашэвіча, Арлоўскую, Красоўскую. Першым старшынёй быў выбраны Вітальд Вэнцлік — юрыст, які і цяпер працуе ў Беластоку.

**— Як ад пачатку ідэя і дзейнасць Таварыства трапляла да людзей?**

— У Беластоку і ваяводстве ўжо пад восень 1944 года пачалі аўтаматычна паўставаць першыя гурткі сяброў СССР. Яны ўтвараліся на базе супольнай дзейнасці ў Антыфашысцкіх Камітэтах, на базе супольнай партызанскай барацьбы. Вопыт II-гой сусветнай вайны паказаў людзям, дзе іх прыяцелі, сябры, а дзе супольны вораг.

**— Прашу крыху аб дзейнасці Таварыства на працягу яго гісторыі.**

— Наша дзейнасць мае характар грамадскі. Гэта значыць, Таварыства працуе для грамадства і пры дапамозе грамадства. Наш актыў вельмі вялікі, адданы і верны. Я назаву некалькіх нашых шматгадовых сяброў і дзеячоў: прафесар Хлябоўскі, магістр Філонік, тав. Авер тав. Кульчынская — усе з Беластока, тав. Базылюк з Бельска, ці Зінуўка з Саколкі, ці Дваракоўская з Высокага-Мазавецкага. Усіх не пералічу, але маем іх многа і іх заслуга ў нашых дваццацігадовых дасягненнях вельмі вялікая.

**— А гэтыя дасягненні?**

— Дазвольце, што вярнуся тут да пачатку. У першым перыядзе мы стараліся давесці ідэю дружбы і братэрства да ўсіх жыхароў праз арганізаванне гурткоў ТПП-Р. Нашы гурткі тады паўставалі масава. Нашы члены прымалі актыўны ўдзел у ліквідаванні бандаў, усведамлялі людзей. Ад пяцідзесятых гадоў наша дзейнасць звялася да культурна-асветнай у напрамку на вялікі СССР і ўсё тое, што нас яднае. У Беластоку быў збудаваны Дом ТПП-Р — дар СФОС-у, у якім адкрыта клуб з кіназалай. Наш клуб спаўняе цяпер важную ролю інструкцыйна-метадычную. Вельмі атракцыйнай формай аказаўся савецкі фільм. Маем фільмовы прапагандовы самаход — дар СССР, які ў найбольш забітых вёсках дэманструе савецкія фільмы. Робім лёгкія праграмы з песнямі, працуем з бібліятэкамі, вельмі плённа са школамі. Арганізуем спатканні з савецкімі дэлегацыямі, артыстамі, конкурсы і выстаўкі.

**— Ведаю, што пэўныя формы працы выйшлі ад нас на форум краіны.**

— Я назаву два нашы мерапрыемствы, якія зрабілі кар'еру ва ўсёй краіне. Першае — конкурс савецкай песні. Выйшаў ён ад нас, з нашага гуртка любіцеляў савецкай песні. У гэтым годзе мы арганізуем наш чацвёрты ваяводскі конкурс, а краёвы будзе толькі трэці. Другое — дэкламатарскія конкурсы. Раней былі яны аб Савецкай Арміі. У гэтым годзе конкурс пад лозунгам «Савецкая і польская паэзія дружбы і братэрства». У нас будзе гэта сёмы конкурс, а краёвы першы.

**— І яшчэ, паколькі вы асабліва сімпатычна падкрэслілі супрацоўніцтва са школамі, прашу крыху аб гэтым.**

— Каля 600 школьных гурткоў сяброў Савецкага Саюза ахоплівае 24 тысячы школьнікаў. Гэта вельмі ўдзячны і працавіты народ. Арганізавалі мы эстафету дружбы. Незапісаная кніжка вандравала

(Працяг на стар. 7)



## 20 год ПНР у выяўленчым мастацтве

**Пад такім загалоўкам у Беластоцкім музеі адкрылася выстаўка мясцовых мастакоў. На ёй прадстаўлена 80 прац 28 аўтараў. Працы выстаўляюцца ўпершыню. Выстаўка цікавая і таму заахвочваем усіх наведаць яе.**

**На здымку: фрагмент выстаўкі.**

Фота: МЛЫНЬЧЫК

